ДУМКІ й ПАГЛЯДЫ

Дадатак да «Беларускага Сьвету» 19(48) — 1987 г. № 9.

## ПАМЯЦІ Аўгена КАХАНОЎСКАГА (КАЛУБОВІЧА)



25-га травеня 1987 году адыйшоў у вечнасьць сьв. памяці Аўген Каханоўскі (Калубовіч), пражыўшы на гэтым сьвеце 77 гадоў.

Аўген Каханоўскі быў чалавекам высокае культуры, глыбокага патрыятызму ды ўсебаковае інтэлігенцыі. Нарадзіўся на Беларусі — памёр у Амэрыцы. Прайшоў ён даўгі й часта цярністы шлях жыцьця.

А. Каханоўскі пакінуў па сабе ведамыя навуковыя й літаратурныя творы, як: «Мова ў Гісторыі Беларускага Пісьменства», 2-е часткі; «Айцы» БССР і іхны лёс»; «На Крыжовай Дарозе» ды шмат розных нарысаў і артыкулаў.

Яго ўклад у беларускую грамадзкую, навуковую й палітычную справу вялікі й шматгранны. Яго сьлед на беларускай адраджэнскай ніве глыбокі й зыркі. Беларуская палітычная эміграцыя страціла выдатнага й стойкага патрыёта.

Пачынаючы з Бацькаўшчыны, нябожчык займаў значныя й адказныя дзяржаўныя пасады, заўсёды зьвязаныя з навуковаю, культурнаю або грамадзкаю дзейнасьцяй.

На эміграцыі яго дзейнасьць была таксама плённаю й відавочнаю, ці то ў працэсе ўзгадаваньня й адукацыі беларускае моладзі, ці ў кіруючых органах БНР.

Сьв. пам. Аўген Каханоўскі супрацоўнічаў з нашым часапісам рэгулярна. Яго крытыка й парады вызначаліся заўсёды сур'ёзнасьцю й аб'ектыўнасьцю. Будучы ўжо цяжка хворым, зрабіў ён канчатковую карэкту Напрыстольнага Евангельля паводле Мацьвея.

Пакінуў ён у глыбокім смутку сваю жонку Іну — ведамую беларускую пісьменьніцу ды іншых сямейнікаў і шматлікіх прыяцеляў.

Вечная Табе Памяць, дарагі Настаўнік ды культурны й палітычны дзеяч!

Вучань

## СУМНАЯ, АЛЕ ЧЫСТАЯ ПРАЎДА!

У адным з нумароў газэты «НІВА» Алесь Барскі піша:

«Адной з галоўных прычынаў слабасьці беларускага нацыянальнага руху зьяўляецца сіла яго тэндэнцыяў, скіраваных супраць унутранага адзінства. Аўтар нядаўна выдадзенай кнігі "Rzeczpospolita wielu narodów" Ежы Тамашэўскі прыводзіць фрагмэнт справаздачы Міністэрства ўнутраных спраў санацыйнай Польшчы з 1928 году:

"Zwalczanie się organizacji białoruskich jest bodaj wyjątkowe. Takiego chaosu, niekonsekwencji, a przede wszystkim zawiści nie znajdziemy w żadnym innym ugrupowaniu narodowościowym".

Удумайся ў сэнс і страшэнна кампрамітуючую нас, беларусаў, вымову прыведзенай цытаты. Як вядома, у тагачаснай Польшчы жылі жыды, украінцы, літоўцы, татары, рускія, цыганы й іншыя. Сярод усіх гэтых нацыянальных груп нашы «бацькі» ўстанавілі рэкорд у непасьлядоўнасьці, хаосе й завісьці. Зразумела, што такое становішча дасканала дапамагала санацыйным уладам змагацца зь беларускім рухам. Значыць, самі беларусы спрыялі нішчэньню беларусаў. З тых часоў прамінула амаль шэсьцьдзесят гадоў, і мы паразумнелі. Ці сапраўды паразумнелі? А ці некаторыя з нас нават не падурнелі?..»

Каб адказаць на пытаньне, ці беларусы паразумнелі, ці падурнелі, трэба толькі глянуць на эміграцыйную рэлігійную ніву...

### І Мова, і Культура, і...

Ня так даўно я прачытаў кнігу Алега Бембеля «Роднае Слова...», як кажуць, без аддышкі. Узьнятая ў гэтай кнізе тэма, — гэта лёс нашае роднае мовы, — даводзіць чытача амаль да плачу. Кніга гэтая пайшла па руках сярод расейцаў, украінцаў ды балтыйцаў. Кнігу гэтую большымі ці меншымі часткамі перадрукоўваюць на копіямашынах для прыватнага, навуковага й грамадзкага ўжытку.

Але я хачу сказаць пры гэтай нагодзе некалькі слоў пра іншае, пра нашую эміграцыйна-беларускую культурна-моўную дзейнасьць.

Мова, гэта кроў народу, — сказаў некалі Ядвігін Ш. А як-жа мы на эміграцыі адносімся да нашае роднае мовы? Розна, але ў большасьці пазытыўна. Гэта добра. А як-жа маецца справа з нашаю культураю? Тут больш складана. Культурная дзейнасьць на эміграцыі, можна сказаць, спантанічная, на маргінэсе й нават агранічаная. Бо-ж на культурную дзейнасьць патрэбныя грошы. Што праўда яны ў нас ёсьць, але выдаюцца яны ў першую чаргу на зьбіраньне надмернага асабістага багацьця, а далей на жалюгодныя й нават праступныя супраць сябе дзеяньні. І толькі нязначны працэнт на культурную дзейнасьць. Як горка й балюча глядзець на нашых эміграцыйных «шышкаў», якія культуры амаль не разумеюць...

Родная мова й культура! Што мы можам для іх зрабіць тут на эміграцыі? Даволі шмат... У першую чаргу трэба неадкладна выдаць усё тое, што створана на эміграцыі нашымі навукоўцамі паэтамі й пісьменьнікамі. Гэтым мы зробім вялікі ўклад у беларускую культуру й мову. Гэтым мы пакінем па сабе спадчыну, памяць, нават значную адраджэнскую плынь...

На гэта патрэбныя грошы! Бязумоўна. Але яшчэ дзеля гэтага патрэбныя таксама патрыятызм, ахвярнасьць, інтэлігенцыя й перад усім сьведамая адказнасьць за беларускую культуру й мову.

Культурная дзейнасьць на эміграцыі пачынае набіраць сілаў. Зараз друкуюцца дзьве вялікія кнігі, — гэта збор твораў Міхася Кавыля й кніга Др. В. Тумаша пра Ф. Скарыну. А колькі-ж падобных працаў

чакае на сваё выданьне? Вось таму далучаецца гэтта адумысловы канвэрт з адрысам Інстытуту. Не выкідайце яго! Задумайцеся, прасьвятліцеся, усьведаміцеся й зачнеце жыць «ня толькі хлебам адзіным»... k. s.

---

А. А. Слонімскі (ЗША)

## МАЯ СЛОНІМШЧЫНА

### [Успаміны]

(працяг)

Паўсталі ў Слоніме й нямецкія ўстановы, як Гэбітскамісарыят, СД, жандармэрыя ды гаспадарскія прадпрыемствы. Пры нямецкіх урадніках заселі ў большасьці польскія сакратаркі. Хоць і афішаваліся яны як беларускі, але нічога беларускага не баранілі, а наадварот, стараліся справе беларускай заўсёды шкодзіць. У некаторых выпадках памагалі беларусам савецкія палонныя з надволжскіх немцаў, якія таксама працавалі перакладчыкамі пры нямецкіх установах.

Крыху пазьней да нас прыйшлі з помаччу беларускія эмігранты з Захаду. Працавалі мы тады як хто мог і разумеў, без свайго галоўнага кіраўніцтва.

У першую чаргу настаўнікі распачалі школьныя заняткі ў пустых будынках пасьля летняга перапынку. Вось тады неяк пачало ўсё пакрысе ажываць. На вуліцы выйшлі людзі, якія вялі сваіх дзяцей у школы, а ў нядзелі ў царкву, дзе найбольш зьбіралася людзей, бо «як трывога, дык да Бога».

Быў другі месяц восені — кастрычнік 1941 г. У гэтым часе я таксама атрымаў будынак для арганізацыі Рамеснае школы. Набор вучняў пачаўся з старэйшае моладзі ад 14 гадоў. Трэба было знайсьці настаўнікаў і інструктараў для кожнага рамясла, бо арганізавалі мы напачатку 5 аддзелаў: шаўцоў, краўцоў, сьлесараў, кавалёў, цырульнікаў ды асобны аддзел крою й шыцьця для дзяўчат. На перамену праводзіліся лекцыі з навукі беларускае мовы ды геаграфіі й гісторыі Беларусі. Наплыў вучняў быў такі вялікі, што некаторыя з плачам адыходзілі дамоў дзеля нястачы месца, бо месца хапала толькі на 200 асобаў і то на дзьве зьмены. У школу наплывала моладзь як зь места, так і зь вёсак. Тут трэба зазначыць, што ў гэтым часе немцы пачалі вывозіць беларускую моладзь на працу ў Нямеччыну, а каму хацелася ехаць у далёкую й няведамую краіну. Таму моладзь шукала ратунку ў школах, якія перапоўніліся да адказу.

У гэтым часе таксама пачала паказвацца партызанка. Нашыя сяляне пачалі ад яе ўцякаць у месты, і такім чынам Слонім перапоўніўся насельніцтвам. Дайшло да таго, што не хапала ўсім памешканьняў. Каб адчыніць дадатковыя школы ў такой сытуацыі, ня было нават мовы. Колькі было тагды бяды для нашага народу — цяжка зразумець.

Немцы былі ўжо далёка на ўсходзе, але ніхто ня ведаў чым гэта ўсё скончыцца. У Менску таксама пачала разгортвацца на шырокую скалю беларуская нацыянальная праца. Аднэю з галінаў гэтае працы, была арганізацыя беларускага тэатру, артысты якога пачалі езьдзіць па местах Беларусі. У Слоніме быў адпаведны будынак для тэатральных выступаў, таму артысты наведвалі Слонім не адзін раз.

Аднаго разу прыехала вялікая група артыстаў на некалькі выступаў. Артысты паказалі ўрыўкі з «Купальля», гралі на цымбалах ды выконвалі розныя песьні. На гэты выступ прыйшоў і гэбітскамісар са сваёй сьвітай, для якога Стэфа Лыскавец прасьпявала дзьве песьні Шубэрта панямецку. Захапленьне канцэртам было агульнае й вялікае,

але насьледкі яго сталіся трагічнымі. Артыстаў, сябры Самапомачы, запрасілі на вячэру, бо ў іх была свая сталоўка. Як часта бывае паміж п'янымі, і на гэтай вячэры два «донджуаны» падпаілі Стэфу Лыскавец. Гэта ў надзвычайным настроі спытала нейкага вайсковага камандзера, чаму ён не вядзе сваё войска ў лес. Пытаньне гэтае для Стэфы аказалася трагічным. Яе арыштавалі й яна два тыдні прасядзела ў турме ў Слоніме. Толькі на стараньне высокіх беларускіх чыньнікаў, яна вярнулася назад у Менск. У Менску на вуліцы на Стэфу наехаў нямецкі грузавік, забіваючы яе на месцы.

(далей будзе)

**Яшчэ ў справе выданьня Евангельля...**

Напрыстольнае Евангельле паводле Мацьвея ўжо надрукаванае. Надрукаванае яно ў колерах. Колькасьць разьлічана на царкоўныя патрэбы.

Гэты-ж самы тэкст пазьней перапарадкоўваецца й друкуецца таксама ў колерах для ўжытку паспалітага. Наклад гэтага выданьня шмат большы. Нядаўна пачаўся далейшы набор Евангельля паводле Марка.

Канчнтковае выданьне ўспомненых Евангельляў запланавана на некалькі год.



**Мы атрымалі для адзыву...**

1. Аўген КАЛУБОВІЧ. **На Крыжовай Дарозе.** Успаміны. Кніга пра савецкія турмы й канцэнтрацыйныя лягеры. Выданьне аўтара. Клыўлэнд, 1986 год. 253 бачыны друку.
2. Масей СЯДНЁЎ. **Раман Корзюк.** Раман. Першая кніга прозы ведамага беларускага паэты. Выданьне аўтара. Нью Ёрк — Мюнхэн, 1985 год. 314 бачынаў друку.
3. Аляксандра САКОВІЧ. **У Пошуках Праўды.** Апавяданьні й аповесьці. Вельмі цікавая кніга прозы. Выданьне Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, Нью-Ёрк — Клыўлэнд, 1986 год. Больш як 250 бачынаў друку.
4. Алег БЕМБЕЛЬ. **Роднае Слова** і маральна - эстэтычны прагрэс. Кніга паказвае моўную сытуацыю на Беларусі й лёс беларускай мовы ва ўмовах бальшавіцкае рэчаіснасьці. Надзвычай цікавая кніга. Выданьне: Згуртаваньне Беларусаў у Вяліка Брытаніі. Лёндан, 1985 год. 242 бачыны цыклястыльнага друку.